**ЮБІЛЕЙ 175-ГОДДЗЯ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА**



ГОДНА АДЗНАЧЫЛА БАРАНАВІЦКАЯ ГРАМАДСКАСЦЬ

СТАР. 2

Веснік ПРАВАБАРОНЧЫ

№ 2 (10) 02.2013

**АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ ПРАЦЭС**

ГРАМАДСКАЕ НАЗІРАННЕ І РЭАГАВАННЕ



СТАР. 3

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# ПРАВААБАРОНЦЫ ПАТРАБУЮЦЬ ГАЛОСНАСЦІ Ў СПРАВЕ АНДРЭЯ ГАЙДУКОВА

Заява
Мінск, 19 лютага 2013 г.

Беларускія праваабарончыя арганізацыі патрабуюць галоснасці і захавання ўсіх працэсуальных гарантый абвінавачанаму ў здрадзе дзяржаве Андрэю Гайдукову.

Як стала вядома з паведамленняў сваякоў Андрэя Гайдукова, які ўтрымліваецца пад вартай у СІЗА КДБ па абвінавачванні ў здзяйсненні злачынства па ч.1 арт. 356 КК Рэспублікі Беларусь (здрада дзяржаве ў форме правядзення агентурнай дзейнасці), пры правядзенні расследавання дадзенай крымінальнай справы органамі следства допускаліся грубыя парушэнні яго правоў. Так, у прыватнасці, неаднаразова адмаўлялася ў доступе абвінавачанага Андрэя Гайдукова да адваката, а сваякам - у прадастаўленні інфармацыі пра месца ўтрымання абвінавачанага.



Варта адзначыць, што права бесперашкодных канфідэнцыйных сустрэч са сваім абаронцам, без якіх-небудзь абмежаванняў па іх частаце і працягласці па часе, гарантаванае грамадзянам Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, а таксама адпаведнымі нормамі дзеючага нацыянальнага заканадаўства - КПК Рэспублікі Беларусь.

У 2011 годзе ў Заключных заўвагах па 4-м перыядычным дакладзе Рэспублікі Беларусь Камітэт ААН супраць катаванняў выказаў сур'ёзную занепакоенасць шматлікімі звесткамі пра тое, што затрыманым часта адмаўляюць у асноўных правах, уключаючы доступ адваката, права на кантакт з сям'ёй (CAT/ C/SR.1053). Камітэт супраць катаванняў рэкамендаваў дзяржаве як заканадаўча, так і на практыцы забяспечыць усім затрыманым доступ да асноўных прававых гарантый, у тым ліку неадкладны доступ да адваката.

Таксама мы вельмі занепакоеныя атрымаўшай шырокае распаўсюджванне ў апошні час і прыменепай у справе Андрэя Гайдукова практыкай уздзеяння на адвакатаў з дапамогай адабрання падпіскі пра неагалошванне дадзеных следства, трактаваных неправамерна шырока. У выніку адвакат пазбаўляецца магчымасці прадастаўляць грамадскасці інфармацыю пра сутнасць прад'яўленых падабароннаму абвінавачванняў, пра магчымыя працэсуальныя парушэнні, якія закранаюць правы падабаронных, пра іх стан здароўя і іншыя падобныя звесткі. На нашу думку, такі падыход абмяжоўвае права асобаў, якія знаходзяцца пад вартай, на абарону, а таксама пазбаўляе грамадскасць магчымасці атрымаць інфармацыю, якая закранае публічныя інтарэсы.

Улічваючы характар прад'яўленых Андрэю Гайдукову абвінавачванняў, заклікаем кампетэнтныя органы Рэспублікі Беларусь пры правядзенні крымінальнага пераследу Андрэя Гайдукова забяспечыць належную абарону і рэалізацыю яго правоў у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і міжнароднымі абавязацельствамі, прынятымі краінай перад сваімі грамадзянамі і міжнароднай супольнасцю. Асобы, вінаватыя ў такіх парушэннях, павінны быць прыцягнутыя да адпаведных мераў адказнасці.

Таксама заклікаем забяспечыць інфармаванне грамадскасці пра ходу расследавання і неабходную публічнасць маючага адбыцца судовага разбіральніцтва па дадзенай справе.

*РПГА «Беларускі Хельсінкскі Камітэт»*
*Праваабарончы цэнтр «Вясна»*

spring96.org

## Баранавіцкія актывісты збіраюць подпісы за тэрміновы рамонт помнікаў у гонар паўстанцаў 1863 года



Разбураная пляцоўка ля Мілавідскага памятнага знака, усталяванага ў 1993 годзе. Разбураны дах каталіцкай капліцы. (Помнікі знаходзяцца ў Баранавіцкім раёне.)

Баранавіцкія грамадскія актывісты распачалі збор подпісаў за тэрміновы рамонт помнікаў (Баранавіцкі раён) у гонар Мілавідскай бітвы 1863 года, якія сёння знаходзяцца ў занядбаным стане. У найбольш кепскім стане знаходзіцца пляцоўка каля Мілавідскага памятнага знака ў гонар касінераў Кастуся Каліноўскага, якую пашкодзіў п'яны мясцовы кіровец у студзені 2013 года. Зусім дрэнны вонкавы выгляд мае і каталіцкая капліца, у якой вецер сарваў бляху і моцна пашкодзіў дах.

– Мы распачалі збор подпісаў і будзем прасіць кіраўніцтва Мілавідскага сельскага Савета, як толькі сыдзе снег, адрамантаваць пашкоджаную пляцоўку. Адначасова мы накіравалі ліст кіраўніцтву Баранавіцкага завода станкапрыладаў, каб яны прыслалі тэхніку і спецыялістаў для рамонта даху каталіцкай капліцы ў Мілавідах, – паведаміў грамадскі актывіст Віктар Сырыца.

Глеб Лушынскі

## У Баранавічах адбылася агульнанацыянальная дыктоўка да 175-годдзя Кастуся Каліноўскага



Баранавіцкія прадстаўнікі грамадскасці і аматары роднага слова 3 лютага прынялі ўдзел у VI Усеагульнай беларускай дыктоўцы, прысвечанай 175-м угодкам з дня народзінаў "літоўскага Марата", правадыра паўстання 1863 года Кастуся Каліноўскага.

Раней мы паведамлялі, што Баранавіцкі аддзел культуры не даў памяшканне гарадской бібліятэкі для правядзення гэтай культурніцкай імпрэзы. Таму мерапрыемства, у якім прыняло ўдзел 18 чалавек, адбылося ў памяшканні ПУП "Цэнтр Рунь" па вуліцы Брэсцкая. Тэкст дыктоўкі – гэта адзін з "Лістоў з-пад шыбеніцы" Кастуся Каліноўскага, які дыктавала Анжаліка Камбалава. Усе ўдзельнікі свята прыгожага пісьменства не толькі праверылі свае веды па беларускай мове, але і атрымалі ў падарунак каляровую паштоўку з выявау Кастуся Каліноўскага. А самыя маладыя ўдзельніцы свята роднай мовы былі ўзнагароджаны яшчэ і кнігай Зміцера Санько "Асобы, якія тварылі гісторыю".

Анжаліка Камбалава

# 175-Я ЎГОДКІ З ДНЯ НАРОДЗІНАЎ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА ГОДНА АДЗНАЧЫЛА БАРАНАВІЦКАЯ ГРАМАДСКАСЦЬ

Святочную імпрэзу 3 лютага, на якой прысутнічала каля 80 чалавек, ладзілі Баранавіцкая Рада Таварыства беларускай мовы і Польскі дом.

Кандыдаты гістарычных навук Ніна Стужынская і Андрэй Кіштымаў распавялі пра асобу Кастуся Каліноўскага і асаблівасці паўстання 1863 года на Беларусі.

Першая дырэктарка Польскага дома ў Баранавічах Альжбета Даленга Ўжосэк выказала сваё бачанне ролі Кастуся Каліноўскага ў развіцці беларускай мовы і дзяржаўнасці.




Грамадская актывістка Анжэла Камбалава ў сваім выступленні паказала, як вобраз Каліноўскага асвятляўся ў кіно, літаратуры і мастацтве. Паэт Алесь Белы прачытаў свае вершы, прысвечаныя касінерам Кастуся Каліноўскага.

З цікавасцю аматары роднай гісторыі ўдзельнічалі ў гістарычнай віктарыне, прысвечанай падзеям вызвольнага паўстання 1863 года, якую правёў старшыня Баранавіцкай Рады ТБМ Віктар Сырыца. Інтэлектуальны турнір паказаў, з аднаго боку, цікавасць людзей да асобы Каліноўскага, а з другога – як многа нам трэба яшчэ чытаць, каб дасканала ведаць пра жыццё і дзейнасць нашага "караля Літвы" (менавіна так сяляне-паўстанцы заходняй і цэнтральнай Беларусі называлі правадыра паўстання 1863 года).

Мінскія барды і выканаўцы Раман Яраш, Віктар Сямашка і Юльяна Літвінава спявалі народныя песні, а мясцовы спявак Алесь Грыцавец выканаў патрыятычную песню Сокала-Воюша, прысвечаную змагарам за свабоду. На заканчэнні свята Галіна Ярашэвіч і Таццяна Малашчанка выканалі песню "Бэз Мілавідаў", прысвечаную касінерам 1863 года.

Вітусь Свабодскі

# ЖЫХАРЫ БАРАНАВІЧАЎ ЗБІРАЮЦЬ ПОДПІСЫ ЗА ПАВЫШЭННЕ МІНІМАЛЬНАГА ЗАРОБКУ І ПЕНСІЙ

У Баранавічах 140 жыхароў паставілі подпісы пад заявай у Адміністрацыю прэзідэнта і Міністэрства працы і сацыяльнай абароны. Яны просяць павысіць узровень мінімальнага заробку і пенсіі да 2,5-3 мільёнаў рублёў.



– Зараз мы жывём на 1,5 – 2 мільёна рублёў і, зразумела, пражыць на такія грошы сёння практычна немагчыма, бо кошты ўсё растуць і растуць, – гаворыць жыхарка горада Алена Кузьміч.

– Людзі хочуць, каб пенсіі і заробкі павялічваліся не толькі перад прэзідэнцкімі ці парламенцкімі выбарамі. Мы хочам прыцягнуць увагу кіраўніцтва краіны, што сёння і на 3 мільёны пражыць вельмі цяжка. Таму просім, як мага хутчэй, разглядзець нашу ініцыятыву і павысіць узровень мінімальнага заробку і пенсіі, – падкрэсліў ініцыятар заявы грамадскі актывіст Рыгор Грык.

Сяргей Вастраўскі

# БАРАНАВІЦКІЯ ГРАМАДСКІЯ АКТЫВІСТЫ ВУЧЫЛІСЯ НАЗІРАЦЬ ЗА АДМІНІСТРАЦЫЙНЫМ ПРАЦЭСАМ



У Баранавічах праваабаронцы і грамадскія актывісты 30 студзеня вучыліся "назіраць" за адміністрацыйным працэсам і адпраўленнем адміністрацыйнага правасуддзя.

– У Баранавіцкім гарадскім судзе на працягу года разглядаецца вельмі шмат адміністрацыйных спраў. Таму на навучальнае мерапрыемства былі запрошаныя асобы, якія не толькі цікавяцца праваабарончай тэматыкай, але і хочуць мець лепшыя веды пры арганізацыі назірання за судовымі працэсамі па адміністрацыйных справах, – паведаміў праваабаронца Сяргей Гоўша.

У якасці трэнераў выступілі прадстаўнікі Цэнтра прававой трансфармацыі Lawtrend і Праваабарончага цэнтра "Вясна", якія прэзентавалі ўніфікаваны дзённік назірання за судовымі працэсамі па адміністрацыйных справах. У гэтым дзённіку ўлічаны ўсе аспекты практычнай рэалізацыі права на справядлівы суд у Беларусі, што дазваляе бакам аргументавана адстойваць свае пазіцыі.

Падчас трэнінгу яго ўдзельнікі вывучалі асаблівасці адміністрацыйнага працэсу, праектавалі і мадэліравалі судовыя пасяджэнні па адміністрацыйных справах, а таксама вучыліся рэагаваць на адмоўныя тэндэнцыі, якія сёння назіраюцца пры разглядзе адміністрацыйных спраў у судах.

Сяргей Законнікаў

# МІТЫНГ ЗАБАРОНЕНЫ З-ЗА НАЯЎНАСЦІ Ў ЗАЯЎНІКА АДМІНІСТРАЦЫЙНАГА СПАГНАННЯ



Баранавіцкаму прадпрымальніку і грамадскаму актывісту Мікалаю Чарнавусу гарвыканкам у чарговы раз забараніў правесці мітынг, які меўся адбыцца 12 лютага.

У лісце з гарвыканкама гаворыцца, што "асобы, якія дапусцілі парушэнне парадку арганізацыі ці правядзення масавага мерапрыемства на працягу 1 года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання за такое парушэнне, не могуць выступаць арганізатарамі масавых мерапрыемстваў."

– Мітынг забаранілі таму, што 19 лістапада 2012 г. Баранавіцкім судом я быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці па артыкулу 23.34 ч.2 КаАП за арганізацыю дабрачыннага абеду на Баранавіцкім кааррынку, – паведаміў Мікалай Чарнавус.

Баранавіцкія прадпрымальнікі збіраліся з нагоды прыезду 12 лютага на Баранавіцкі баваўняны камбінат Аляксандра Лукашэнкі правесці мітынг на вуліцы Фабрычнай побач з адміністрацыйным будынкам камбіната.

Прадпрымальнікі лічаць неадэкватным рашэнне Берасцейскага аблвыканкама падняць падатак для індывідуальных прадпрымальнікаў на 50%.

Заяўляльнік мітынгу - прадпрымальнік Мікалай Чарнавус абяцаў не выкарыстоўваць на мітынгу плакатаў з заклікам скідання прэзідэнта.

Нагадаем, 12 лютага баранавіцкія прадпрымальнікі меліся правесці мітынг, каб выказаць свой пратэст супраць падвышэння падаткаў, якія робяць прадпрымальніцкую дзейнасць бесперспектыўнай і стратнай.

Трэба адзначыць, што Баранавіцкі гарвыканкам апошнія гады на заявы Міколы Чарнавуса адказваў адмовай.

Аляксей Снег

## Мікалай Статкевіч – бацьку: "Як бачыш, нашу пароду нічога не ўзяло..."

Баранавіцкая недзяржаўная газета "Intex-press" у вялікім артыкуле "Гэта мой выбар, мой шлях, і я не збіраюся сыходзіць з яго" напісала пра гадавое ліставанне Мікалая Статкевіча са сваім бацькам. Газета нагадвае, што Мікалай Статкевіч – адзіны з экс-кандыдатаў у прэзідэнты, які па сёняшні дзень знаходзіцца ў Магілёўскай турме № 4. Кожны тыдзень ён імкнецца дасылаць лісты свайму бацьку Статкевічу Віктару Паўлавічу. З гэтых невялікіх лістоў можна даведацца, што дзённы заробак Мікалая Статкевіча складае 300 рублёў пры ўмове выканання плана, што 6 месяцаў яго не пускалі да праваслаўнага святара, што лісты пераважна даходзяць ад родных, а ад іншых людзей "недзе губляюцца", што вінаватым ён сябе не лічыць, таму і прынцыпова не піша прашэнне аб памілаванні на імя прэзідэнта. На думку Мікалая Статкевіча, субота і нядзеля ў турме – самы нудны час, бо газет і лістоў не прыносяць. А ў лісце ад 2 лютага 2012 года Мікалай Статкевіч паведамляе: "Сёння праходзіў медагляд. Кардыяграма, ціск, аналізы – усё ў парадку. Як бачыш, нашую пароду нічога не ўзяло".

– Мікалай мне піша кожную сераду і для мяне яго лісты – бадай адзіная сёння найвялікшая радасць. Ён заўсёды піша аптымістычныя лісты. Я добра разумею, чаму ён так робіць. Да мяне прыходзяць сябры, грамадскія актывісты і проста неабыякавыя людзі, якія выказваюць словы падтрымкі. Мы разам перачытваем гэтыя лісты і абмяркоўваем грамадска-палітычнае жыццё, дзелімся навінамі, – паведаміў Статкевіч–старэйшы.

spring96.org

## Мікалай Чарнавус уздымае транспартную праблему жыхароў вёскі Русіны




Баранавіцкі прадпрымальнік і грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус накіраваў ліст з подпісамі грамадзян вёскі Русіны Баранавіцкага раёна ў Савет Міністраў і Брэсцкі аблвыканкам.

– Гарадскі транспарт не ходзіць у вёску Русіны, нягледзячы на тое, што яна даўно ўвайшла ў рысу горада Баранавічы. Хворым у бальніцу і вясковым дзецям на гурткі ды секцыі прыходзіцца дабірацца, хто як можа. – Гэтае пытанне не аднойчы ўздымалася перад уладамі розных узроўняў, але беспаспяхова, – даводзіць Мікалай Чарнавус.

Таму Мікалай Чарнавус просіць Савет Міністраў і Брэсцкі аблвыканкам працягнуць маршрут гарадскога аўтобуса № 1 да вёскі Русіны, каб жыхарам вёскі і гараджанам мець добрую камунікацыю і палёгкія стасункі. Адначасова заяўнік і падпісаўшыяся грамадзяне просяць зрабіць для іх дзяцей бясплатны праезд на секцыі і гурткі ў дзяржаўныя ўстановы дадатковай адукацыі і выхавання.

Да заявы прыкладзены 81 подпіс жыхароў вёскі Русіны.

Вера Антановіч

# ПРАВААБАРОНЦЫ ВІНШУЮЦЬ З ВЫЗВАЛЕННЕМ ВАСІЛЯ ПАРФЯНКОВА

Жыве Беларусь!

Палітвязень Васіль Парфянкоў каля 11 гадзін раніцы выйшаў за брамку Баранавіцкага следчага ізалятару №6, на тэрыторыі якога размяшчаецца арыштны дом. На волі яго сустрэлі сябры і паплечнікі, праваабаронцы, актывісты з Менску і Баранавічаў.

Парфянкоў быў шчыра і прыемна здзіўлены, што столькі людзей сабралася яго сустракаць, прызнаўся, што не мог уявіць такога..

Ён паведаміў журналістам, што чакаў гэтага дня. На ўмовы ўтрымання не скардзіўся, аднак прызнаўся, што на волі ўсё адно лепей. Пасьля першых інтэрвію палітвязень павітаўся з сябрамі, распытаў іх пра жыццё. Хаця збольшага Васіль добра ведае сітуацыю ў краіне, паколькі рэгулярна чытаў прэсу.

Ён таксама распавёў, што прыходзіла шмат лістоў, а некаторыя дні атрымліваў іх нават па некалькі сотняў, як з Беларусі, так і з-за мяжы, падзякаваў усіх за падтрымку.

На пытанне аб тым, ці не збіраецца ён спыняць грамадскую дзейнасць, Парфянкоў адказаў, што не збіраецца і будзе падтрымліваць усіх тых, хто змагаецца за незалежную Беларусь. Паведаміў, што стаў яшчэ больш загартаваным на далейшую барацьбу.

Пра жыццё ў арыштным доме Парфянкоў распавёў, што ягоная камера была прасторнай, разам з ім сядзелі 6-8 чалавек, усе нармалёвыя людзі, аднак атрымаў некалькі вымоваў за нязначныя парушэньні, але абыйшлося без ізалятару.

Наста Дашкевіч перадала яму ліст ад Зміцера Дашкевіча. Затым, перад адпраўленнем на Мінск усе зрабілі памятныя здымкі.

У другой палове дня палітвязня сустракалі ў Менску. Праз тэлефон яго павіншаваў з вызваленнем палітвязень і ўдзельнік Плошчы-2010 Уладзімір Някляеў, моладзевыя актывісты, прадстаўнікі незалежных СМІ.

“Адзінае, жаданне на сёння, - паведаміў Васіль Парфянкоў пры развітанні з журналістамі, - гэта дабрацца дахаты ды прыняць ванну. А затым жыццё працягнецца”.

Нагадаем, што цягам трох сутак палітзняволены мусіць стаць на прафілактычны



нагляд у міліцыі, які скончыцца толькі праз некалькі месяцаў.

Падчас выбараў-2010 Васіль актыўна ўдзельнічаў у грамадзянскай кампаніі “Гавары праўду!”, быў актывістам штаба Уладзіміра Някляева, збіраў подпісы за яго, праводзіў агітацыю. Удзельнік Плошчы-2010.

Парфянкова затрымалі ў Менску 4 студзеня 2011 г. па падазрэнні ў датычнасці да “масавых беспарадкаў” 19 снежня 2010 г. Праз трое сутак ён апынуўся ў менскім СІЗА па вул. Валадарскага як фігурант крымінальнай справы па арт.293 Крымінальнага кодэксу.

А ўжо 17 лютага 2011 г. Фрунзенскі суд Менску асудзіў Васіля на 4 гады калоніі строгага рэжыму. Адбываў пакараньне ў калоніі г. Ворша. З 17 па 27 ліпеня прабыў у штрафным ізалятары “за парушэньне формы вопраткі”. 11 жніўня 2011 г. быў памілаваны прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам і вызвалены. Але ненадоўга.

29 траўня 2012 года Васіль Парфянкоў быў асуджаны паводле артыкула 421 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь судзьдзём Першамайскага раёну Менску Сяргеем Бандарэнкам за парушэнні ўмоваў прафілактычнага нагляду. Прэвэнтыўны нагляд тэрмінам на адзін год, у парушэньні якога прызнаны вінаватым былы палітвязень, быў усталяваны за ім з 5 студзеня 2012 году. Падставай для гэтага стаў ўдзел Парфянкова ў грамадзка-палітычным жыцьці.

24 ліпеня Менскі гарадзкі суд не задаволіў касацыйную скаргу Парфянкова на прысуд аб арышце на 6 месяцаў за невыкананьне умоваў прэвэнтыўнага нагляду, усталяванага судом. 9 жніўня 2012 г. Васіль Парфянкоў быў узяты пад варту ізноў.

spring96.org

**“ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК”** Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь

**Калі парушаны вашыя правы, маеце пытанні, заўвагі ці прапановы - звяртайцеся.**
Дапамога бясплатная. Нашы кантакты: тэл. 8 029 7220957, e-mail: viasna_bar@tut.by

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў

ВЕСНІК ПРАВААБАРОНЧЫ